№ 71 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 71 (163). Год II. Вільня, 4 верасьня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Расейскі пауночны фронт скранууся!

### 3 верасьня.

**Заходні тэатр:**

У часі навальніцы і пад дажджом артылерыйская бітва крапчэла на фронці Фляндрыі; на іншых адрэзках баевая чыннасць слабая. На дарозі Камбрэ-Аррас адбіто сільнае англіцкае наступленьне. Ля хутара Іртбіз учорашняя здабыча французоў значна паменшала.

**Усходні тэатр:**

**Фронт Леопольда Баварскаго: Пасьля акуратнай падгатоўкі нямецкіе дывізіі 1 вэрасьня перайшлі цераз Заходнюю Дзьвіну наабапол Іксқюля. Сільная артылерыйская і мінная работа папярэдзіла пераход пяхоты, каторая, пасьля каротқіх бітв, умацавалася на паўночным берэзі ракі. Сільнымі атакамі расейцы адкінуты ўсюды, дзе яны бараніліся.**

**Рух нашых войск развіваецца паводлуг пляну.**

**Пад націскам нашаго наступленьня ворагі пакінулі свае пазыцыі на заходзі ад Дзьвіны. Нашы дывізіі атакуюць тамака так сама адступаючых расейцоў і пасоуваюцца упярод.**

**Густые колонны усіх роду войск шыбка йдуць па дарогах, каторые вядуць з Рыгі на поунач.**

**Падпаленые вёскі і хутары значаць дарогу адступаючаго расейскаго крыла.**

---

ШТОКГОЛЬМ (В.Т.Б.). Організацыйная камісія штокгольмскай соцыялістычнай конфэрэнціі пастанавіла **адлажыць конфэрэнцію на неазначэны час.**

ШТОКГОЛЬМ. «Нов. Вр.» пішэ аб маючай адбыцца нарадзі Керэнскаго з начальнікамі арміі, ў тым ліку Корніловым. Радзіцца маюць аб палажэньні на паўночна-заходнім фронці.

«Реч» пішэ, што перад сазывам установчаго сэйму расейскі ўрад будзе рэорганізован і будзе складацца толькі с 5 асоб.

У Кіеві адбылося сабраньне староннікоў цара, на каторым было многа афіцэроў гвардзіі. Пастанавілі узвесьці на трон вэл. кн. Міхаіла.

У Ніжнім-Ноўгарадзі і ў Кіеві адбылася агульная забастоўка з вялікімі дэмонстраціямі на вуліцах. У Рэвелі так сама пачалася забастоўка. Работнікі зажадалі двайной платы.

С прычыны недастачы ў Пецярбурзі спажыўных прадуктоў школы будуць адкрыты толькі 15 кастрычніка. Пецярбурскіе вучні, каторые ў гэты момэнт знаходзяцца на правінціі, павінны паступіць у якую колечы правінціяльную школу. Адбываецца эвакуація на правінцію пецярбурскаго гарнізону, бальніц і вялікіх фабрык.

На магамэтанскім конгрэссі ў Казані была гутарка аб уціску магамэтан тымчасовым урадам. У Семірэчэнску забіты 2.000, а ва ўсім Туркестане — каля 50.000 магамэтан. Тымчасовы ўрад забараніў друкаваць справаздачу аб гэтым конгрэссі. Усе магамэтанскіе газэты ў Расеі зачынены.

ПЕЦЯРБУРГ (Рэўтэр). У апавешчэньні з урадовай крыніцы аб контр-рэволюцыйнай змові гаворыцца:

Большая часць арэштоў адбылася за межамі Пецярбурга. Урад лічыць, што ешчэ не пара выявіць імёны арэштаваных.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.) Некрасов, памочнік маршалка рады міністроў, паведаміў газэты, што аб вернасьці революціі глаўнакамандуючаго Корнілова зусім нельга сумлевацца. Контр-рэволюцыонеры памыляюцца на-шчот Корнілова. Трэбаваньня Корнілова аб узмацаваньні ў арміі дысцыпліны часьцю ўжо споўнены. Аб замені Корнілова іншым генэралам ня можэ быць ніякай гутаркі.

КОПЭНГАГА. Корнілов заявіў Керэнскаму, што ў прыпадку, калі-б тымчасовы ўрад споўніў жаданьне рады раб. і салд. аб скасаваньні кары сьмерці у арміі, ён выйдзе у адстаўку.

ЖЭНЕВА. (Гавас). „Бірж. Вед.“ пішуць, што амэрыканскі ўрад, здаволены маскоўскім конгрэссам, пастанавіў пазычыць Расеі ешчэ 5 мільярдаў на вайну.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ізноў затапілі ў Атлянтыцкім акіане і ў Англіцкім каналі 17.500 тонн.

Ад пачатку падводнай вайны затоплено гэтак больш за 6 мільёнаў тонн.

---

*Вільня, 4 верасьня.*

«Berl. Tagbl.» даносіць, што глаўная камісія нямецкаго Рэйхстагу ў той аўторак далей разглядала справу упраўленьня Літвой і Курляндзіей. Нацыонал-лібэралы, паступоўцы, соцыял-дэмократы і дэпутаты цэнтру падалі прэдлажэньне, прызываючы імперскаго канцлера, каб у занятых немцамі землях Літвы і Курляндзіі было праведзено ў жыцьцё народнае прэдстаўніцтво, каторае імело-бы веру **ўсіх часьцей насяленьня,** ды каб было заведзено — насколькі пазволяць ваенные варункі — цывільнае упраўленьне. Прэдлажэньне гэтае было прынято ўсемі галасамі.

Мы бачым у гэтым добрую запаведзь для палітычных ідэалоў беларускаго грамадзянства з абодвых бакоў ваеннаго фронту, каторые абнімаюць і рэшту Беларускай зямлі. Хай мір прынясе нам спаўненьне іх!

---

## Справа Сухомлінова.

Суд над Сухомліновым адкрывае незвычайна цікавую страніцу з гісторыі сучаснай вайны: ён асьветляе самы зачатак вайны ў Расеі. Вось, што нямецкіе газэты прыносяць паводлуг справаздачы «Нов. Вр.».

С паказаньнёў сьведкоў высьняецца, што прыказ аб мобілізаціі запасных у Расеі сперша павінен быў абняць толькі палудзенные губэрні: гэта мело паказаць, што Расея гатова выступіць толькі проці Аўстрыі, маючы пэўнасць у нэутральнасьці Нямеччыны. Але ваеннай партыі ўдалося дабіцца ад тагочаснаго цара Мікалая, каб мобілізація была агульная — па ўсей Расеі. Такі крок быў ужо яўным выступленьнем і проці Нямеччыны, быў роўназначным вызаву агульна-эўропэйскай вайны. На гэтым грунці пры царскім дварэ узнялася барацьба між партыямі, і партыі міра ўдалося ўрэшці намовіць быўшаго цара загадаць спыніць мобілізацію. Мобілізація тады ўжо шла поўным ходам. Аб ей ведалі ў Нямеччыне, і імператар Вільгэльм паслаў цару Мікалаю тэлеграму, заверачы яго, што ешчэ час паправіць страшэннае нешчасьце, якое грозіць Эуропе, што ніхай Расея стрымае мобілізацію і распусьціць запасных, і між ею і Нямеччынай будзе захована старая дружба.

Цар згодзіўся з гэтым: ён праз тэлефон звярнуўся да Сухомлінова з зусім выразным прыказам адмяніць мобілізацію. Сухомлінов абецаўся споўніць прыказ, але, як ён сам апаведае, і ня думаў споўняць яго, лічучы, што такі крок вызваў-бы ў Расеі катастрофу. На другі дзень цар пытаўся у Сухомлінова, чы прыказ яго споўнен? Сухомлінов прызнаецца, што ён «абалгаў цара», кажучы, што ўсё робіцца паводлуг яго жаданьня, — а тым часам мобілізація пасоўвалася шыбка ўпярод. І, відаць, ведаў Сухомлінов, што ён робіць: ваенная партыя, баючыся, што вайны можэ ня быць, напружыла ўсе сілы, каб змяніць пагляд цара на гэту справу, і праз некольні гадзін цар ужо дзякаваў Сухомлінову за шыбкае і добрае правядзеньне мобілізаціі.....

Цяпер можэм лёгка зразумець, чаму рэволюцыйны ўрад Расеі паставіў справу Сухомлінова ў першы чарод: яна дае ключ да развязкі пытаньня, хто найбольш вінават у нешчасьці, якое перажывае Расея і ўся Эўропа. Мы думаем, што паказаньня сьведкоў дадуць незвычайна багаты абвінецельны матэр'ял проці цэлаго раду членаў царскай сям'і і вышэйшых чыноў гасударства, павінных у пралітай крыві народу. Мы думаем, што суд над Сухомлінывым — гэта першы крок да расплаты народу с тымі, хто дзеля нейкіх цёмных комбінацій выдаў мільёны людзей на сьмерць, калецтво, голад і холад.

## «Lietuvos Aidas».

Гэтымі днямі выходзіць першы нумэр літоўскай газэты «Lietuvos Aidas» дзеля літоўскаго грамадзянства сталічнаго места Беларусі і Літвы. Тут—у сэрцы нашаго краю —літвіны маюць цяпер свой голас нараўне з другімі нацыянальнасьцямі, і беларусы, само сабой разумеецца, ня хочуць і ня могуць пярэчыць ім у гэтым.

Для тутэйшаго літоўскаго грамадзянства час, калі яно ня мело свайго друкаванаго органа, быў вельмі крытычны: за гэты час грамадзкая думка не магла выяўляцца адкрыта і ў поўнай меры, а гэта давало грунт дзеля розных неабаснованых перасудоў, дзеля безадказных заяў, палітычных спэкуляцій і т. п. Цяпер літоўскае грамадзянство будзе мець магчымасць ясна сказаць сабе і другім, чаго яму трэба, чаго яно хочэ і як маніцца устроіць сваю долю і долю сваей зямлі.

Беларусь лішне крэпка звязана з Літвой, каб мы маглі не агледацца на тое, што робіцца у літвіноў. Чым лепей будзе арганізован літоўскі народ, тым вялікшая будзе яго адпорная сіла, тым лепей здалее ён наладзіць сваё жыцьцё на роднай зямлі.

Мы шчыра жадаем гэтаго братом-літвіном. Мы, беларусы, ніколі не выяўлялі прагавітасьці на землі, дзе жывуць літвіны, дзе зьвініць літоўская мова. І мы верым, што літоўскі народ у сваім цэлым гэтак сама спагадліва будзе аднасіцца да беларускаго народу, што абодва братніе народы, каторых дзеліць іх язык, здалеюць устанавіць добрае суседство.

Ніхай жэ новы орган літоўскаго грамадзянства служыць дзеля выражэньня тэй здаровай грамадзкай думкі, каторая стаіць на грунці справядлівасьці і пашаны ўсіх нацыянальнасьцей Краю, на аснове прынцыпа *suum cuique* (кожнаму сваё).

## У Вільні і ваколіцах.

× **Местовая 6% пазыка.** Суммы, каторые у сваім часі былі заплочаны тутэйшым грамадзянствам, як надзвычайны падатак, цяпер залічаюцца на 6 працэнтную местовую пазыку. Усе асобы, заплаціўшые якую-колечы сумму, прызываюцца ад 10 верасьня гэтаго году ў Stadtkrejsamtskasse ўзяць облігаціі, каторые будуць выдаваць на 50, 100, 500 і 100 руб.

× **Выдача спажыўных прадуктоў.** Усе жыхары, каторые не запісаліся ў якую-колечы страўню, павінны запісацца не пазьней 20 верасьня, каб атрымліваць спажыўные прадукты (муку, крупу і т. д.), у адным з ніжэйпісаных месц:

| | | |
|---|---|---|
| В. Пагулянка 17— | мест. крама | № 10 |
| Віленская 25— | „ „ | № 1 |
| Сьв. Яна 23— | „ „ | № 33 |
| Замковая 20а— | „ „ | № 8 |
| Субоч 12— | „ „ | № 30 |
| Сьв.-Юрскі 41— | „ „ | № 26 |

Хто не запішэцца да 10 кастрычніка, губляе права атрымліваць прадукты.

× **«Хрышчэньне малака».** На гандлярку з Жыдоўскай вуліцы Бэлю Турэц за «хрышчэньне» малака наложэн штраф грашмі.

× **У акружным судзе.** Селяне Садоўскі і Шульскі за кражу бульбы у селянкі Алены Шульскай былі аддадзены пад суд. Яны апраўданы.

Гандляр Ізаак Гатэльманн атрымаў ад гандляра Якобсона 10.000 марак дзеля замены на расейскіе рублі. Ен заявіў, што гэтые грошы згубіў. На судзе нельга было давясьці, што ён хочэ ашукаць Якобсона, і яго апраўдалі.

19-гадовы Францішк Статкевіч і 18-гадовы Мар'ян Мацевіч праз саламяную стрэху залезьлі ў начы ў хату Міхаіла Завадзкаго ў Дубовай, падбродзк. павету, грозьбамі прымусілі гаспадара маўчаць і забралі муку, масло, яйке і хлеб. За кражу з узломам і за грозьбу вінавайцоў засудзілі кожнаго на 1 год у папраўчы вастрог.

× **Прапалі бяз весьці:** 4-гадовы Гэнюсь Наркевіч, с Карэчнёскаго завулка (каля Кальварыйскай) 2, д. Лукашэвіча, і 22-гадовы Вацлав Дудкоў, не пры розуме, з Быстрыцкай 33, 1.

× **Уцёкшы конь.** 29 жніўня у сапёрные казармы прыбіўся селянскі конь-каштан с кароткай грывай.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| 29—30 | + 21,5° | + 14,5° |
| 30—31 | + 17,5° | + 8,5° |
| 31— 1 | + 21° | + 13° |
| 1— 2 | + 19° | + 10° |

## З усяго Краю.

**Мараторыум для вэкселёў і чэкоў.**

Тэрмін для вэкселёў і чэкоў прадоўжэн да 31 сьнежня 1917 г.

**Ачыстка ад вошы.**

Аб размерах змаганьня нямецкай уласьці з вошамі можна судзіць паводлуг таго, што толькі ў межах ваеннаго упраўленьня Літаўэн ёсць 98 пунктоў дзеля ачысткі ад вошы і ладзіцца ешчэ 36. У дзень на ўсіх пунктах ачышчаюцца ад вошы каля 40.000 душ.

БЕЛАСТОК. У сваей падарожы па нашым краю сюды заехалі 10 нямецкіх журналістоў і агледалі место.

На Ліповай вуліцы выкрыта патайная мылаварня.

БЕЛАСТОК. 26 жніўня Беласток спраўляў другую гадаўшчыну адходу расейцоў.

Этапны інспэктар, гэнэрал бар. ф. Заккэндорфф, пакідае сваё становішчэ.

ПЕСКІ. 26 жніўня тут пры вялікім натоўпе людзей адправіў праваслаўную імшу і сакрамэнты праваслаўны сьвяшчэнік з Вільні.

24 і 25 тойжэ сьвяшчэнік дзеля тэй жэ мэты езьдзіў у Ваўкавыск.

РУДЗЕВІЧЫ. За забойство нямецкаго салдата адзін селянін засуджэн на сьмерць. Кара споўнена.

ГОРНЫ, Гродзенск. пав. У тутэйшых ваколіцах вырас сьцебель жыта з 10 каласамі.

ЛІДА. Тут на кароткі час адкрыта нямецкая ваенная выстаўка.

КОЎНА. Сюды прыехалі з Оліты на самаходах 10 дэпутатоў прускаго сэйму агледаць мест о.

НІЖНІЕ ШАНЦЫ, пад Коўнай. Адкрыты тут у канцы мая таго году млын дзеля мліва касьцей даў дагэтуль каля 154.000 кіл. тлустасьці, 387.000 кіл. касьцяной мукі і каля 2 мільёнаў касьцяных апілкоў.

АБЭЛІ. Ян Гіліс, 15 гадоў, падпаліў двор селяніна Васілеўскаго за тое, што апошні злавіў яго пры кражы яблыкоў і пабіў за гэта. Ковенскі акружны суд, прынімаючы пад увагу нялетнасьць вінавайцы, засудзіў яго толькі на 3 гады ў вастрог, хаця за сумысны падпал паводлуг нямецкіх ваенных законаў выпадае кара сьмерці.

ВІШНІКІШКІ, Сылгудышскаго пав. У марцы гэтаго году тут абрабавалі трох жыдоў на дарозі селянін Аскін і Мельнікас, каторые за гэта засуджэны: першы — на 1 год, а другі — на 9 мес. у папраўчы вастрог.

МАКОВО, пад Сувалкамі. 25 жніўня 15-гадовая Алена і 7-гадовая Марыя Трыбуліс знайшлі на бацькавай пожні ручную гранату. Яны забаўляліся ею ажно датуль, пакуль яна не ўзарвалася. Алена

# Духоўные песьні.

## Старцы.

(Гл. «Гоман» № 66—70).

Лепшым тыпам пастаяннаго старца, які і дагэтуль жыве ў маей памяці, быў «Сымон сьляпы», які паяўляўся у нашай вёсцы два-тры разы у год. Высокі, крыху згорблены пад ціжарам заплечнаго хатуля, с шырокімі плечмі і грудзьмі, с тонкімі, раскідзістымі нагамі, Сымон рабіў ўласьцівае яму ўражэньне ешчэ здалёку. Пры блізкім разглядзе Сымона, гэтае ўражэньне умацовывалося: дзякуючы бяззменнай і летам і зімой востраверхай «аблавусе» даволі высокі рост яго ешчэ болей вышэў; калі-ж Сымон абнажаў сваю рыжэватую с пабелай галаву, то ня меней росту ўражаў яго высокі паморшчэны лоб і пад ім дзьве вачавые яміны з неаткрываючыміся павекамі, бяз веяк. Высокі, завострэны нос з гарбом на рабым матовым твару, ды шпакаватая, русая бародка клінам, упіраўшаяся у грудзі, давершалі першае ўражэньне.

Дзеля ссыпкі атрымліванаго збожжа Сымон насіў за плечамі крэпкі палатняны хатуль, ў шыркі і ў доўжкі роўны яго крэпкім плечам. Апрыч гэтаго хатуля Сымон насіў пад абодвымі пахамі па торбе. Часам летам Сымон насіў у руках невялічкую карзіначку для яек, сулейку з вадой і запасные лапці, прывешэные да аднэй с торб.

Пуга Сымонава складалася з гладкай палкі-цяпеліны, аршыны два доўгай, с прывязанай да яе вяроўкай сажні на тры доўгай. Калі Сымон быў у дарозі, або баспечэн ад сабак, — зложэная вяроўка падтыкалася пад пояс, або баўталася на палцы, на якую Сымон заўсёды апіраўся. Праходзячы міма сабак і ўходзячы у вёску Сымон распускаў вяроўку, трымаючы пугу на пагатове, але пускаў яе у ход у самым толькі пільным здарэньні, прычым нараўне с сабакамі даставалося часам і дакучлівым «блазнам», — за што бацькі ня вельмі наракалі на карыстаўшагося агульнай пашанай Сымона. Даканчалі убор Сымонаў агульная у вітэбскіх беларусоў скураная каліта, ножык і грэбянёк на паясе.

Будучы сьляпым, Сымон ніколі не разлучаўся с павадыром, які немаль заўсёды насіў такіе-ж торбы і пугу. Павадырамі Сымонавымі бывалі розные асобы: дзеці ад 9 да 12 гадоў, відушчые калекі і рэдка кабеты, каторых Сымон віцочна недалюбліваў. На якіх варунках сходзіўся са сваімі павадырамі — я ня ўмею атказаць цяпер: ведаю толькі, што яны зменяліся даволі часта, і памятаю горкае нарэканьне Сымонаво на гэткі парад рэчэй: «адукуеш яго (павадыра), як добраго; а ён кінець цябе, дый хвастом накрыецца!» Зазвычай павадыр ішоў спераду, а Сымон крочыў за ім крокі за тры, трымаючыся за «матырок», адным канцом прывязаный да павадырскай запасовай торбы. Апрыч павадырства на памочніку лежала павіннасць памагаць у сьпевах, прычым ён заўсёды пеяў октаву вышэй і ўнісон с Сымонам. Як толькі Сымон станавіўся на «службу» (маленьне), павадыр браў мейсцо поплеч, найчасьцей з леваго боку. Абодвы яны выразна хрысьціліся, складалі накрыж рукі на пугі-кійкі, і Сымон моцным барытонам, заўсёды крыху ў нос, пачынаў пеяць старэцкіе песьні.

Калі Сымон прыходзіў у стасоўны час, то, пасьля адпачынку і пасілкаваньня стравай, гаспадары прасілі яго сасьпеваць Лазара, зрабіць памін па родных, або памаліцца за ураджай і прыплод скаціны. Ахвотна і безадкладна Сымон браўся за «служабку». Тут ён станавіўся на ногі, складаў накрыж рукі на пугу і прыступаў да сьпеваньня ўступнога сьпеву. Памінаўшые дыктавалі імёны памершых родных. Сымон паўтараў дыктаваные імёны з дадаткам ад сябе звыклаго тэксту. Сколькі-бы ні дыктавалося імён, Сымон адпеваў кожнае з іх асобна, цярпліва нажыдаючы далейшаго цягу дыктоўкі, спыняўшайся пры спамінаньні імён і дзеля таго, што абычай, зрэшта даволі рэдкі, вымагаў, каб памінальшчык жваў штонебудзь ласае — абаранак, пірог, чысты хлеб, — аткусываючы кавалак пры

жэньня іх палітыкі. Гэта значыць выдаць нованарадзіўшуюся Расею немінучай контррэволюціі. Амэрыканскі народ пацярпеў неперэнасімую абіду ад нямецкаго ураду і ня хочэ мсьціцца на нямецкім народзі, каторы вядзе гэту вайну не па сваей ахвоці і шмат ад яе выцярпеў. Мір павінен быць аснован на праве народаў, а не на праве урадоў».

РЫМ (Рэўтэр). У ватыканскіх кругах кажуць, што Папеж будзе ждаць адказоў усіх ваюючых старон на сваё мірнае прэдлажэньнэ, а пасьля апублікуе новую ноту, стараючыся пагадзіць адказы ваюючых старон, ды гэтак станупь на грунці практычнай палітыкі.

ЛОНДОН. Камісія конгрэсса прафэсыональных саюзоў у Блекпулю прэдлажыла высказаць энэргічны пратэст проці забароны англіцкаго ураду ехаць у Штокгольм.

ПОРТСМУТ. Забароненая англіцкім урадам конфэрэнція англіцкай рады раб. і салд., назначэная ў Саўзэмтоне, адбылася тут. Пастаноўлено энэргічна прапаваць дзеля адбудовы рад раб. і салд. у Англіі. Адзначэн сільны рух між англіцкімі работнікамі. У Вулічы, Братфордзі, Крайтоне і іншых местох адбыліся мітынгі дзеля пратэсту проці нявыдачы урадам пашпартоў на падарожу у Штокгольм. Ждуць забастоўкі лондонскіх партовых работнікоў, каторые пры праезьдзі Ллойда Джорджа ў парлямэнт спаткалі яго «капячай музыкай».

ЛОНДОН. «Times» друкуе дэклярацію 27 асоб, у тым ліку 6 пэроў і 6 членаў ніжняй палаты, каторые заяўляюць, што выступаюць с консэрватыйнай партыі і організуюць новую нацыональную партыю. Праграма яе — вайна да аканчацельнай пабеды, барацьба проці барацьбы між работнікамі і гаспадарамі іх.

ЦЮРЫХ. Работнікі і дробные чыноўнікі ўсяе Швейцарыі пастанавілі зрабіць агульную аднадзеўную забастоўку дзела пратэсту проці недастачы спажыўных прадуктоў і ўсіх бед ад вайны.

ЛЮГАНО. У Турыне вельмі сур'ёзнае палажэньне: ў горадзі німа мукі. Спадзяюцца надта сур'ёзных прыпадкоў.

ПАРЫЖ. Міністэр унутрэнных спраў, Мальві, выйшоў у адставку с прычыны абурэньня грамадзянства, вызванаго таёмнай сьмерцю ў вастрозі выдаўца анархістычнай газэты „Bonnet Rouge».

ШТОКГОЛЬМ. Соцыялісты Корэі паслалі тэлеграму с пратэстам проці гвалтоў Японіі над Корэйскім народам. Тэлеграма жадае, каб была вернена незалежнасць Корэі.

ВЕНА. Офіцыозная «Wiener Ztg.» друкуе спіс міністроў новаго габінэту. Новы габінэт—не партыйны, значыць, зложэны не с прэдстаўнікоў розных партыі, а чыноўніцкі. Яго задача—вясьці толькі бягучые справы. Праграма габінэту: падгатоўка пераходу ад ваенна-экономічнаго жыцьця да нормальных варункоў, рэформа конституціі згодне з вымогамі часу і развіцьце нацыональнай аўтономіі на аснове роўнапраўнасьці народаў пры здаволеньні агульна-дзержаўных інтэрэсоў.

ОТАВА (Рэўтэр). Закон аб прымусовай ваеннай службе ў Канадзе ўступіў у сілу.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

### 31.VIII. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі пад вечар крапчэў агонь між Ізэр і Ліс. Узяты палонные. У Артуа, на поўначы ад Ленс, мейсцовые бітвы. На палудзенным заходзі ад Ле Катле ўзяты чысьленые палонные.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пад Вэрдэнам, наабапол Маасу, сільная артылерыйская бітва.

### Усходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На паўночным заходзі ад Дзьвінска, пры Іллукшце і каля возера Нароч адбіты наступленьня расейскіх войск.

*Македонскі фронт:* Пры Дабраполі — сэрбскіе, а ля возера Дойран — англіцкіе атрады адбіты с цяжкімі стратамі.

### 1. IX. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі сільны агонь на дюнах і наабапол Іпра. У Артуа—агонь ад каналу Лябассэ да палудзеннаго берага Скарп.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Ля хутара Іртбіз французы пасьля сільнай падгатоўкі агнём атакавалі вялікімі сіламі. Пачатковые іх удачы зніштожэны контратакай. Мы ўзялі многа палонных. Пад Вэрдэнам агонь ізноў крапчэў у вечары.

### Усходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На Дзьвіне, ля Іллукшта, Смаргоні і Баранавіч баевая чыннасць жывейша, чым звычайна. На поўначы ад чыгункі Ковэль Луцк узяты палонные. Ля Тарнополя і Гусятына расейскіе атрады адбіты штыкамі.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэнс:* На поўначы ад Фокшан нямецкіе войскі выкінулі румыноў з аднэй горнай пазыціі. Пры Максінэні, на ніжнім Сэрэці, нямецкіе і боўгарскіе войскі ўварваліся на расейскіе пазыціі і перэкалолі гарнізон.

*Македонскі фронт:* Пры Паралове адбіты італьянцы, пры Доброполь'ю — сэрбы і на заходзі ад Вардару — французы.

### 2.IX. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На фронці Фляндрыі бітва крапчэла ў дзень і ў начы. На заходзі ад Ля Фэр узяты палонные.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Аллеман узяты палонные. На хрыбце Шмэн дэ Дам, ля хутара Іртбіз, часць нашых пярэдніх ліній асталася ў руках французоў.

---

Ротмістр бар. ф. Ріхтгофэн дайшоў 60-ай пабеды на паветры.

### Усходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Уздоўж Дзьвіны, ля Смаргоні і Баранавіч агонь крапчэў.

На палудзенным усходзі ад Рыгі, пад Фрыдрыхштадтам і Іллукштам мы вялі ўдачные опэраціі.

На заходзі ад Луцка ўзяты палонные і дабыча.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Вострые атакі ворагоў на паўночным заходзі ад Фокшан адбіты са стратамі.

*Македонскі фронт:* Ля Манастыра французскіе атакі, ведзеные вялікімі сіламі, пасьля пачатковых удач адбіты. Уварваўшыеся ў боўгарскіе акопы ворагі перабіты або ўзяты ў палон.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 30. VIII. **Усходні тэатр:** На поўначы ад Фокшан нямецкіе палкі здабылі Ірэшті і удзержалі, ня гледзячы на контратакі.

**Італьянскі тэатр:** Баталія на Ізонцо трывае з найвялікшай сілай. Нашы войскі пабедна адбілі найцяжэйшые штурмы. На Монтэ С. Габріэле ворагам у вечары ўдалося ўварвацца ў паўночную часць нашых акопаў. У начы ў часі вялікай навальніцы мы контратакай выкінулі італьянцоў і прымусілі іх безладна ўцякаць. Пры Костан'евіцы ў контратацы мы нават пасунуліся ўпярод. Чысло палонных у адзінадцатай баталіі на Ізонцо правысіло 10.000.

Італьянскіе лятуны двойчы атакавалі Трыэст. Забіты некольki асоб, зруйнованы некольki будынкоў.

ВЕНА. 31. VIII. **Італьянскі тэатр:** Учора быў чацьвёрты налёт на Трыэст с паветра. Вялікіх шкод не было.

14-ты дзень баталіі на Ізонцо. На плоскагорыі Карст і ў ваколіцах Гэрцу — даволі спакойна. Затое каля Падлесь'я, Мадоні, Брытова і Монтэ С. Габріэле ворагі з незвычайнай заўзятасьцю вялі адну атаку за другой. Усе нашы пазыціі удзержаны пабедна. Каля Брытова ўзяты 3 афіцэры, 110 салдатоў і 2 кулемёты. У палудзенным Тыролі, пры Бэйцэпца мы здабылі горную вяршыну с чысьленымі палоннымі.

ВЕНА. 1. IX. **Італьянскі тэатр:** Паабедзі між Тольмэйнам і Віппахам ізноў узнялася бітва. Пры Кале, Брытове, М. С.-Габріэле ўсе вострые штурмы адбіты. На ўсходзі ад Гэрцу мы ўварваліся ў італьянскіе акопы і ўзялі 6 афіцэроў, 140 салдатоў і 4 кулемёты.

ВЕНА, 2. IX. **Італьянскі тэатр:** Італьянцы скінулі ўчора на Трыэст 70 бомб.

На Ізонцо вялікшых бітв не было. У ваколіцах Монтэ С. Габріэле узяты ў палон 10 афіцэроў і 315 салдатоў.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 1 верасьня нашы перэдавые судны наткнуліся каля Горсмута на англіцкіе крэйсэры і мінаносцы. Насьля нядоўгай перастрэлкі, ворагі, каб абмінуць сустрэчу с падходзіўшай нашай падмогай, уцяклі. 4 рыбаловы, каторые служылі нам, як патрулі, былі папсованы і прымушэны выкінуцца на мялізну. Большая часць людзей з іх зышла на даньскі бераг.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ў Паўночным моры і Брыстольскім канале ізноў затапілі 4 параходы і 3 рыбаловы.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У блокадным поясе навакол Англіі ізноў затоплены 24 000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Падводнымі лодкамі ў Сяродземным моры затоплены ізноў 12 параходаў і 24 паруснікі ёмкасьцю разам 46.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак пад камандай капітана Рожэ ізноў затапіла у англіцкіх водах 7 параходаў ёмкасьцю 48.000 тонн.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.